Кошт паштовай перасылкі аплачана агулам.

Цана асобнага нумару 3000 м. п.

# ВОЛЬНЫ СЬЦЯГ

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Выходзіць тры разы у тыдзень.
Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 36.000 м. п.
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 7000 мк., сярод тэксту 6000 м. і на 4 стр. 5000 м., за радок пэтыту у 1 шпальт.

№ 6. Вільня, Пятніца, 7-га верасьня 1923 г. Год І.

## Дбайма аб сваіх наступніках.

Яшчэ дзіця ляжыць у калысцы. а ўжо бацькі ўздыхаюць, ждуць яго ўзросту — ці хутка стане ім у падмогу. Бо стары і малы, дык як хворы ці калека, лішняя губа ў хаце — так кажа народ.

І вось не здалее гэткае пісклянё так узмацавацца, каб самому ступаць па гэтай гаротнай зямлі, як ўжо запрагаецца ў работу, каб ня быць дармаедам, лішніцай у хаце. Абарваны, балотны, галодны ад зары да зары жывець жыцьцём жывёлы і адна тая думка сядзіць у галаве, каб як зарабіць, пад'есьці, каб жыць. Яно ўжо змалку чуе найстрашнейшую бяду — голад душы і цела. Бо вось падходзе час, калі трэба вучыцца і тут выплывае зноў гэтае праклятае: калека, хворы, дармаед.

Усе хатнія дзеляцца на два варожыя лягеры; адны: „хай лепш зарабляе; з навукі хлеба есьці ня будзе; навучыцца, бацькоў адрачэцца; навука — мука". А другія: „трэба вучыцца; цяжка жыць цяпер нявучонаму; без навукі — мукі". І залежна чыя старана возьме перавагу, такая і будзе пастанова — вучыцца ці век пражыць ацямнеламу.

Але мала пастановы, важна яшчэ як кажуць хатнія справы, бо калі няма хлеба, дык тады не да навукі, як бы не хацеў вучыцца, як бы не хітраваў — нічога не дакажыш, жыцьцё мілей і памінаючы усё на сьвеце чуеш толькі, што хочаш есьці.

І так з намі, працоўнай беднатой было і ёсьць—гэта наша адвечная песня: дрэнна нам не вучыцца, але і страшна вучыцца.

Часамі сын беднаты, аднімаючы апошні кусок хлеба ад працуючай радні, зможа кончыць навукі, вырвецца ў сьвет, дастукаецца да чыну, ажэніцца з папоўнай ці шляхцянкай і ён ужо пан і качаргой носа не дастанеш, і не глядзіць нават у той бок, дзе стогне яго падняволены брат, і ён гатоў смактаць кроў народу, бараніць панскія інтарэсы. Страшны гэта праступак перад сваім народам! Ад першай ахапіўшай болі і злосьці трудна ўстрымацца, каб не пакараць такога здрадніка, крывадушнага прадажніка, каб не засячы яго, каб каменем не прыбыць, каб ня ўзрос, каб акалеў. Аднак так рабіць нельга,—хоць памсьціцца лягчэй для сэрца, але цяжэй для сумленьня. Хай запекаецца ад ненавісьці кавалкамі кроў, але агонь помсты ня трэба марнаваць на гэтых ахвяр варожай нам клясы—іх такая самая віна, як і ягоных бацькаў, якія пасылалі ў школу.

Вынавата школа, вінаваты гаспадарсцьвенны лад.

Я хачу казаць аб школе, ў якой прыходзіцца вучыць нам дзяцей, хачу казаць аб буржуазнай школе. Пануючая кляса, буржуазія і клерыкалы маюць аграмадныя шкодныя ўплывы на школу; яны сьвядома калечуць душы дзяцей, забіваючы ў іх пал да барацьбы любоў да волі. Яны заваблiваюць іх у будучым панскімі ласкамі і роскашай на цёплыя чынадральскія пасады.

У працягу ўсяго школьнага ўзросту дзіця паступова прывучаецца да паслухмянасьці, пакоры, выхоўваецца панскі слуга, папіхач, каб умеў скакаць пад панскую дудку і пагарджаў беднату. У праціўным разе, хто ідзе ад іх самапасам, хто ня хоча, каб закавалі яго і яго думкі, хто працуе за вызваленьне рабочых і сялян, той караецца астрогамі, нэндзай, паняверай, голадам.

Аднак ня гледзючы на прасьледаваньні і на тое, што панскі зьмей яшчэ многагаловы і лішня зазнаўшыйся—мы ўсёткі змагаемся за нашы правы, за лепшую долю чалавецтва і нясём горда і высока свой сьцяг. І сьцяг гэты мы павінны перадаць нашым дзецям.

Дык беражыце сваіх дзяцей ад панскіх павуковых сетак, дамагайцеся сваей роднай школы, працоўнай школы.

Пасылаючы дзяцей у школу баранеце іх ад яду буржуазнага выхаваньня, пільнуйце, каб не ўзрасла ў іх дзікая расьліна панскіх уплываў, дбайце аб іх надзеляючы роднай кніжкай, пролетарскай літэратурай. Хай дзіця з малку пачынае разумець, дзе праўда, а дзе ашуканства; разумець чаму яго бацьком цяжка жывецца, хоць яны адным цягам валочуць лямку цяжкай працы; разумець чаму ён галодны і абарваны ходзе ў школу і яму яшчэ робюцца перашкоды здабыць асьвету, а панічыкі, чысьценькія і пуцатыя езьдзяць на навукі — ім дарога ўсюды адкрыта.

Калі нашыя дзеці добра гэта ўразумеюць, ясна прадставяць сабе прычыны падзелу на бедных і багатых, дык ніякія затуманіваньні, ні пагрозы, ні зьдзекі не здалеюць яго зьвясьці са шляху барацьбы. Дзіця тады патрапіць выдзяліць ядронае зярно навукі ад другака панскага ашуканства. А як наша пакаленьне будзе сьвядомым, дык і наша праўда запануе, бо ў сьвядомасьць наша моц.

Дык у імя дабра чалавецтва трэба пільна сачыць за разьвіццём сваіх дзяцей і выгадовываць з іх вольных грамадзян Усясьветнага Саюзу Працоўных.

Р. Юргілевіч.

## Ці разумеюць?

Адным з найдзіўнешых супярэчаньняў паўстаушай з мёртвых для незалежнага істнаваньня і самастойнага развіцьця—Польшчы зьяўляецца іменна... поўная залежнасьць і зьвязаннасьць яе гаспадарсьцьвеннай волі... Гэтая зьвязаннасьць акрэсьліваецца як вонкавымі таксама і ўнутранымі прычынамі.

З вонкавага боку волю гаспадарча-палітычнага самаакрэсьленьня Польшчы зьвязываюць путы ўваскрасіўшага яе Вэрсальскага трактату, зьвязывае паняволеньне Польшчы яе вызваліцелямі, ў асаблівасьці—яе залежнасьць ад Францыі.

Гэтая залежнасьць робіць Польшчу нявольніцай перамогі Францыі над Нямеччынай, з якой Польшчу зьвязываюць незаменна-карысныя гаспадарчыя сувязі, з якімі ня могуць ісьці ні ў якае параўнаньне тыя забойча-рыцарскія, „фэодальныя" адносіны — „апекі" і „ўдзячнасьці", гэтак патрэбныя і карысныя пакуль што для „сюзэрэна" пана-магната—Францыі і катастрафічна-нявыгадныя для „вассала" (падпанка) Польшчы.

Трагічна-безнадзейнай мэтай гэтага плывучага з Вэрсальскіх ставоў саюза Польшчы з Францыяй зьяўляецца, гэтак кажучы, „ваенная окупацыя гістарычнага працэсу",—паралізацыя (астаноўка) ваеннай сілай ўсіх тых гаспадарскіх працэсаў, якія — няўхібна-канешны для перамогі шкодаў і спусташэньняў вялікае вайны,—паралізацыю гэтае здаровае, гістарычна-няўпыннае волі Эўропы да самаадбудаваньня.

Няма чаго дзівіцца патым, што ня гледзячы на голасна рэклямуемую, мэту гэтага саюзу—змусіць паваленую ў вайне Нямеччыну да адбудаваньня спустошаных праз яе абшараў сярэдняй Эўропы, гэтая адбудова—як раз наадварот—адкладаецца на неакрэсьлены час...

---

Ад гэтая „першае вады" Вэрсальскае Эўропы ідзе лёгічны ланцуг няўхібных супярэчэньняў, які вяже па руках і па нагах усе здаровыя сілы жадаючых нармальнага жыцьця народаў.

Нядаўна адзін з разумных фінансавых аглядчыкаў газэты „Kur. Polski" пісаў:

„Фінансавае спусташэньне Нямеччыны зьяўляецца галоўным чыньнікам, адкладаючым адбудаваньне Эўропы"

Запраўды—найлепшы, прыкладны працаўнік у-ва ўсім сьвеце—немец—ставіцца ў такія варункі жыцьця, што ён ня можа працаваць, а змушаны ваяваць...

Але, як гэта ня дзіўна і гэтая бліжэйшая мэта Францыі ня можа быць дасягнута.

„Ня гледзячы на гаспадарчае спусташэньне, Нямеччына мае даволі энергіі і срэдстваў дзеля, таго, каб... пашыраць і будаваць прамысловасьць у Мэксіцы, Паўднёвай Амэрыцы, ў Расеі...."

Гэткім чынам „адбудаваньне і прамысловае ажыўленьне чужых, далёкіх абшараў — заместа „адбудаваньня Эўропы" — вось адзіны вынік стасаваньня забыўшымі розум гаспадарскі пераможцамі вадлівага „мэтада санкцыяў"...

З гэтага відаць, што гаспадарскае, творчае актыўнасьці нямецкага народу ня можа задушыць ніякая сіла,—на'т сіла пануючае ў Эўропе бяспрэчна француcкае дыктатуры... Яна толькі, як бачым, перад усім, шкодзіць сама сабе...

Можна окупаваць той ці іншы абшар, але ня можна „окупаваць" жывую творчую энэргію, жывую працоўную актыўнасьць народу... Ня можна „окупаваць няўпынны гістарычны працэс, — самую гаспадарчую эвалюцыю сьвету, — бо яны — няпераможны для ваеннае сілы...

Найяскравей за ўсіх фатальныя вынікі гэтае „окупацыі гісторыі" адбіваюцца. як заўсёды бываець, на, другарадным залежным сябры „сямы" пераможцаў", на гэтак кажучы, „бедных сваяках, вялікіх дзяржаваў, адным з якіх зьяўляецца Польшча.

І гэта — зусім зразумела, бо „паны" — дзяржавы маюць прынамся дачасна свабодную волю дачасную карысьць і бяруць сабе „львіную долю" ўсіх выгадаў палажэньня, зьядаюць усе „каштаны" што пякуцца ў гарачым яшчэ попяле пасляваеннага пажарышча... А бедным сваякам-паўпанкам прыходзіцца толькі выгрэбаць сваімі рукамі гэтыя „каштаны" з агню...

Пазбаўленая права і магчымасьці вясьці самастойную палітыку, Польшча апрача другіх арганічных відаў свайго разьвіцьця, хварэе на тое, што можна назваць „паралюшам фінансава-эканамічнае волі", паралюшам, якога ня бача і ня разумее, як гэта заўсёды бывае, трусьлівы, баючыся праўды оптымізм хворага...

Ці-ж запраўды ня дзіўна, што да таго часу ніхто ў Польшчы не запытаўся ў сябе ці ў другіх, — дзеля чаго гэта Пдльшчай робіцца, разам з Францыяй, руйнаваньне фінансава-эканамічнай сілы і здароўя Нямеччыны, гвалтоўнае абясцэненьне яе валюты,—гэтай самай нямецкай маркі, простую, неразрыўную і беспасрэдную залежнасьць ад якой польская маркі прызнаюць ўсе, без вынятку, офіцыяльныя і неофіцыяльныя фінансавыя аўторытэты Польшчы?!...

Аб гэтай залежнасьці, і ня толькі біржавой, але і гаспадарчай, гаварылі заўсёды ўсе без вынятку міністры фінансаў Польшчы... Гэтую залежнасьць польскай маркі ад нямецкай асабліва падчырківалі, нават павялічывалі, яны ўсе тады, калі трэба было зваліць з сваей галавы на нямецкую марку віну за той гвалтоўны ўпадак польскае валюты, які праўду кажучы, вызывала сама Польшча сваей дрэннай вонкавай і ўнутранай палітыкай, сваім няўмелым гаспадараваньнем у сваей дзяржаве...

Паслухайце, як выразна і пераконываючы піша аб гэтай гаспадарчай залежнасьці Польшчы ад Нямеччыны сама „Gaz, Warsz." , — спэцыяльны орган тых самых „францускіх" паўпанкау, якія цяпер дарваліся да ўлады, зруйнавалі самі сваей хіенскай пражорлівасьцяй польскую валюту і хочуць ўсю віну за гэтае зваліць на нямецкую марку, якую так сама разам з Францыяй — яны-ж і руйнуюць...

„Другой, амаль найважнейшай, прычынай спадку польскае маркі зьяўляецца каласальная катастрофа маркі нямецкай"... „Залежнасьць польскае маркі ад маркі нямецкай дагэтуль яшчэ, на жаль, зьяўляецца фактам, ня падлягаючым ніякому сумліву"...

Дзякуючы фатальным памылкам мінуўшага часу, мы вывозім дагэтуль у вельмі значным процэнце ў Нямеччыну, але ўвоз да нас ідзе галоўным чынам з краёў з высокай валютай. Ў гэткім становішчы наніжэньне нямецкае валюты абракае наш гандлёвы баланс на хістаньні і патрасеньні, якія ў свой чарод вызываюць ўпадак польскае маркі — у тым самым стасунку, у якім падае нямецкая валюта"...

Гэтак пісала самая проціў-нямецкая з усіх польскіх газэт — „урадовая" „Gaz. Warsz.", зараз-жа пасьля атрыманьня ўлады „Хіена-Пястам", вынікам чаго і зьявіўся ў значнай меры раптоўны спадак польскай валюты...

скончыўмы матэматычны факультэт Казанскага унівэрсітэту.

# УСХОДНЯЯ БЕЛАРУСЬ.

## З Менску.

### К пераводу дзелаводзтва Н. К. Земляробства на беларускую мову.

Калегія Народнага Камісарыяту Земляробства пастанавіла ў працягу 2 месяцаў перавесьці дзелаводзтва на беларускую мову.

### Экскурсанты НК Земляробства.

Народны Камісарыят Земляробства Беларусі пастанавіў выдаць на адпраўку экскурсантаў на с.-г. выстаўку ў ліку 340 чал. 1360 таварных рублёў.

### Драм. Студыя Бел. Дзярж. Тэатру.

Пададзена больш 100 заяваў. Ёсьць некалькі прыехаўшых з вёсак, жадаючых папасьці ў студыю. З гэтага відаць зацікаўленасьць бел. жыхарства справай мастацтва.

### Бяларуцкай вол., Менскага п.

Аграмадная народная гаспадарка Відагоршч раскінулася на прыгожай глебе Бяларуцкай воласьці.

Сад у некалькі дзес., сажалкі і ўючыяся істужкай яловыя прысады. Усё гэта надае гаспадарцы прыгожасьць і цікавасьць.

У гэтакім прыгодным кутку можна ўзяцца за праўдзівае разьвіцьцё і будоўлю тэй культурна-народнай гаспадаркі, якую будуе сацыялістычная дзяржава.

Для болей культурнага вядзеньня гаспадаркі нядаўна спусьцілі возера, каторае будуць ачышчаць, пасьля чаго будуць пускаць і заводзіць лепшы сорт рыбы, а дзеля гэтага пачалі будаваць масты і грэблі.

Асьветная справа стаіць вельмі дрэнна— нават за ўвесь час істнаваньня гаспадаркі ня было школы. Маладыя рабочыя, а таксама і дзеці рабочых астаюцца няграматнымі. Гэта трэба лічыць найвялікшым недахватам у гаспадарцы.

Становішча пасеваў ня дрэннае. Жыта выглядае здавальняюча і нават лепшае за сялянскае.

Становішча вясковых пасеваў, як, напрыклад, бульбы крыху горшае, але затое ў добрым становішчы аўсы і добра выглядаюць агароды.

Шкоднікаў пакуль што не прыкмячаецца.

У адносінах да траў трэба сказаць, што сёлета добры ўраджай канюшыны. Сенажаць трохі горшая і аддадзена сялянам на трацяк. Травы ўбраны да дажджоў, як сенажаць, таксама і канюшына.

Агромны сад, які займае каля 5-цёх дзесяцін сёлета ня дасьць вялікай выручкі. Яблыням многа пашкодзіў холад, а таксама чэрві, каторыя аб'елі цьвет.

Уся гаспадарка, якая мае 116 дзесяцін ворнай зямлі, апрацоўваецца 10—12 канямі пры 9 пастаянных работніках.

Пры гаспадарцы ёсьць яшчэ машынаправік. Пры яго дапамозе вядзецца малацьба, мліва і рэзка сечкі.

З боку батракоў-рабочых ніколі ня чуваць скаргі і нездавальненяў як на адміністрацыю, так і на загадчыка. Матаряльная забясьпека здавальняючая. Усе батракі маюць кароў, гадуюць сьвіней, куры, сеюць частку зямлі і маюць добрыя агароды.

Пайкі атрымоўваюць нармальна за выключэньнем апошняга месяца ліпня і палавіны жніўня, з прычыны звычайнага недахвату хлеба ў гаспадарцы.

Цяпер ўжо з 15 жніўня рабочыя ўсе сілы прылажылі на тое, каб здабыць новага хлеба з поля.

Гэта гаспадарка яшчэ мае скураны завод, каторы ідзе з вялікай пасьпешнасьцю і прыносіць гаспадарцы вялікую карысьць.

Усе рабочыя гаспадаркі — гэта старыя землеробы, здольныя да працы на полі.

9 чалавек здольны апрацовываць 116 дзес. лепш, як пры пану 16—17 чал.

Гэта шчырасьць да працы і спайка паміж сабой нашых рабочых сьведчыць аб тым, як можа ісьці праца ў нашых калектыўных гаспадарках.

# Допісы.

## Беларусы у Амэрыцы.

### Беларуская агітацыя ў Чыкаго.

(Ад нашага карэспандэнта).

Беларуская грамадзкая дзеяльнасьць па арганізацыі беларусаў у Амэрыцы вядзецца энэргічна. 4-го жніўня ў районе Кедзі Эвеню, дзе знаходзіцца значны лік беларусаў, працуючых у „майпах" (ліцейных заводах) адбыўся сход, на якім пастаноўлена адкрыць першы аддзел Беларускага Народнага Таварыства, а на 18 жніўня прадназначаны Сход на Фулертон эв. Пасьля акцыя перанясецца на Саўт Чыкаго. З гэтуль перакінецца на ўвесь штат Іллінайс і сумежныя з ім другія штаты. Нагул цяпер справа беларуская ў Чыкаго пастаўлена добра. Народ да вызваленьня сваіх братоў у далекай і дарагой Беларусі адносіцца прыхільна і многія пачынаюць актыўна працаваць у гэтым напрамку. Сіла беларускіх праціўнікоў што раз уменшываецца і не за гарамі ўжо той час, калі ўся тутэйшая калёнія будзе аднэй магутнай беларускай сілай.

### Новыя беларускія працаўнікі.

Актыўные рады беларускіх працаўнікоў павялічваюцца новымі энэргічнымі сіламі. У Чыкаго на верх жыцьця выплылі за сваю выдатную працу на дабро Беларускага Народу такія асобы: Ф. Міхайлоўскі (брат вядомага нашага пасла) М. Лукашэвіч, І. Жукаў, Велічка, Власен, Ліхойга, Шарабалько і Рамановіч.

# Усячына.

### Газэта на 6-ці мовах.

Цэнтральны Камітэт саюза радавых Соцыялістычных Рэспублік пастановіў выдаваць урадовы „Весьнік на 6-ці мовах: расейскай, украінскай, беларускай, турэцка-татарскай, армянскай і грузінскай. „Весьнік" будзэ пршым часопісам, у якім будуць выключна друкавацца урадовыя настановы і абвесткі.

## Курс на грошы.

**Варшава 5 Верасьня.**

(Офіцыяльна).

| | |
|---|---|
| Даляры | 249.000 |
| Нямецкая марка | 0,0125 |
| Фунты штэрл. | 1.146.000 |
| Франкі франц. | 14.100 |
| Франкі бэльгійск. | — |
| 10 руб. золатам | 1.470000 |
| Польскі злоты | — |

## Сэкрэтарыяты Беларускага Пасольскага Клюбу.

1) **Вільня**, Віленская вул. 12, кв. 6.
2) **Ліда**, I I Слабодка 8.
3) **м. Глыбокае**, Дзісьненскага пав. вул. Сенкевіча 46.
4) **Жодзішкі**, Сьвянцянскага павету кс. Годлеускі.
5) **Навагрудак**, Вялікі Рынак 14.
6) **Нясьвіж**, Альбянская 28.
7) **Столбцы**, Шпітальная 22.
8) **Бельск**, Замкавая вул. 3, кв, 1
9) **м. Саколка**, Горадзенская вул. 34.
10) **м. Кляшчэлі**, Бельскага павету.
11) **м. Крынкі**, Горадзен. павету, Горадзенская вул. 34.
12) **Беласток**, Вуліца кс. Буткевіча, 16.

**Беларускі Пасольскі Клюб**, Варшава, Вейская вул. Сойм.



## Паведамленьне.

Гэтым даводзім да ведама ўсім нашым падпішчыкам, што газэта „Вольны Сьцяг" мае пастаянны аддзел „Юрыдычных парад".

Розныя запытаньні з апісаньнем справы просім прысылаць на адрэс Рэдакцыі (Wilno, Wileńska 12—6). Адказы і парады будуць друкавацца ў газэце дарма.

**Рэдакцыя.**

Рэдактар-Выдавец **Я. Лагіновіч.**

Друкарня **Левін і Сын**, Вільня, Нямецкая 22.